## САВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ І ПЕРАБУДОВА

# ШТО ЧАКАЕ АЎТАРА ПАСРЭДНАГА ТВОРА

Перамены, якія адбываюцца ў савецкай культуры, бадай, асабліва прыкметныя сёння на прыкладзе літаратуры. У гэтым можна пераканацца, параўнаўшы тое, што было да перабудовы, і тое, што адбылося за апошнія два гады.

Літаратурныя часопісы — перш за ўсё «Знамя», «Москва», «Наш современник», «Новый мир», «Октябрь», «Юность» — яшчэ два гады назад звычайна залежваліся на паліцах кіёскаў. Сёння іх разбіраюць за лічаныя мінуты, адразу ж пасля паступлення. Таму што сталі цікавымі. Таму што закранаюць праблемы, якія хвалююць чытача.

У кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, яго часопісаў і выдавецтваў прыйшлі творчыя людзі, людзі новага мыслення. Хаця яны і не складаюць пакуль абсалютнай большасці, іх уплыў адчувальны. Зніклі распаўсюджаныя яшчэ нядаўна жанры, такія, як панегірык і дыфірамб і ў адносінах да асобных людзей, і ў адносінах да рэчаіснасці.

Знікаюць «белыя плямы». Пісьменнікі звяртаюцца да тэм, якія лічыліся яшчэ два гады назад забароненымі. Выдаюцца літаратары, якія яшчэ нядаўна знаходзіліся ў апале, творы якіх падвяргаліся астракізму чыноўнікамі і бюракратамі ад мастацтва.

Сёння службовы і іншы аўтарытэт ужо не пераважае над літаратурным. Сёння ўжо больш цяжка выдаваць актуальнасць за мастацкасць.

Характэрны і зусім нядаўні прыклад публічнасці і дэмакратызму — выбары кіраўніка маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі, буйнейшай у Саюзе пісьменнікаў СССР. Вылучаюцца 8 (!) кандыдатаў. Чацвёра адразу заяўляюць самаадвод. Пяты — Анатоль Рыбакоў, аўтар бестселера «Дзеці Арбата», паведамляе аб самаадводзе тэлеграмай з ЗША, дзе знаходзіцца ў камандзіроўцы. Застаюцца трое. Крытык Аляксандр Міхайлаў, паэт Яўгеній Еўтушэнка, празаік Вячаслаў Шугаеў. Маецца на ўвазе, што працэдура выбараў на гэты раз будзе такая: кожны кандыдат азнаёміць пісьменнікаў са сваімі прапановамі аб удасканаленні дзейнасці маскоўскай арганізацыі, растлумачыць, навошта і з чым ён ідзе на адказную пасаду. Вострая, шчырая дыскусія працягваецца больш пяці гадзін. Вынік тайнага галасавання: за Міхайлава — 93 чалавекі, за Еўтушэнку — 55, за Шугаева — 15. Кіраўніком маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі такім чынам стаў Аляксандр Міхайлаў. Ён, як і два яго «сапернікі», — за перабудову і публічнасць у літаратурнай справе. Але не за паспешлівасць, хуткія рашэнні, вывады і дзеянні. Ён лічыць, што да дэмакратызму трэба ісці толькі дэмакратычнымі метадамі, што добрая мэта патрабуе і адпаведных сродкаў яе дасягнення.

Саюз пісьменнікаў СССР уключае ў сябе 15 саюзаў пісьменнікаў у саюзных рэспубліках, 20 саюзаў пісьменнікаў у аўтаномных рэспубліках, пісьменніцкія арганізацыі і аддзяленні ў аўтаномных абласцях, краях, буйных гарадах. У яго складзе прадстаўнікі 88 нацыянальнасцей.

СП СССР выдае 16 газет на 15 мовах народаў СССР і больш за 120 літаратурна-мастацкіх часопісаў і альманахаў на мовах народаў СССР і замежных. Яго цэнтральнае выдавецтва «Советский писатель» штогод выпускае па 500 і больш назваў кніг тыражом звыш 25 мільёнаў экземпляраў, з іх больш трэці — у перакладзе з моў народаў СССР. Рэспубліканскія арганізацыі СП маюць свае выдавецтвы.

У Саюзе пісьменнікаў СССР — 10 тысяч членаў. І сёння ўжо не сакрэт, што далёка не ўсе яны дастойныя называцца прафесіяналамі высокага рангу, як гэта абумоўлена ў статуце арганізацыі.

Аўтар у СССР атрымлівае ганарар за кнігу незалежна ад колькасці прададзеных экземпляраў. Добра гэта ці дрэнна, [illegible]пускае пісьменніка [illegible] памагае яго творчасці — прадмет сённяшніх гарачых спрэчак. Папулярныя пісьменнікі лічаць гэтую сістэму заганнай. Пісьменнікі ж сярэдняй рукі называюць кашчунствам усякае змяненне такога [illegible]радку. Парадак гэ[illegible]і ўвогуле «гуманны» для іх: кніга чытабельная і нечытабельная выходзяць аднолькавымі тыражамі.

Але пазіцыі пасрэдных пісьменнікаў, галоўных пастаўшчыкоў «шэрай літаратуры», пахіснуты перабудовай. Кнігавыдавецтва перайшло ўжо на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. І сутнасць перабудовы ў галіне якраз у павароце яе тварам да чытача.

Відавочна, што стваральнікі нечытабельных кніг — супраць такой перабудовы, супраць спаборніцтва, супраць таго, каб тыраж твораў вызначаўся чытацкім попытам. Цяперашнія перамены ім зусім непатрэбныя. І ўвесь іх клопат пра тое, каб, як піша галоўны рэдактар часопіса «Знамя» Рыгор Бакланаў, «захаваць свае незаслужаныя прывілеі, той стыль работы і жыцця, калі нішто не калыхалася, але сыпаўся залаты дождж узнагарод».

Сёння становішча пасрэдных літаратараў сур'ёзна ўскладнілася. Заўтра яны, калі трымацца логікі падзей, стануць ужо нікому непатрэбныя.

Што ж рабіць тым, хто нічога, акрамя «шэрай літаратуры», стварыць не можа? На гэтае пытанне адказваюць і чытачы, і сапраўдныя пісьменнікі, літаратары - прафесіяналы. Яны прапануюць кожнаму брацца толькі за сваю справу. У гэтым, уласна кажучы, сэнс перабудовы ўвогуле і ў літаратуры ў прыватнасці: кожнаму займацца толькі грамадска карыснай працай.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

**Людвіка Ямант (па мужу Радзевіч) нарадзілася каля 1840 года ў Вільні ў прагрэсіўнай сям'і, члены якой былі цесна звязаны з нацыянальна-вызваленчым рухам Беларусі і Літвы сярэдзіны XIX стагоддзя. Брат Людвікі — Іосіф Ямант (вучыўся разам з Кастусём Каліноўскім у Пецярбургскім універсітэце) на заключным этапе паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі і ў Літве быў рэвалюцыйным камісарам Мінскай губерні. Сястра Людвікі — Алена (нявеста саратніка К. Каліноўскага Цітуса Далеўскага) прымала актыўны ўдзел у рабоце віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі, актыўным членам якой была таксама Людвіка Радзевіч.**

**Летам 1863 года ў доме Ямантаў у Вільні пасля прыезду з Гродна пасяліўся Кастусь Каліноўскі. Тут адбылося яго знаёмства яшчэ з адной сястрой Людвікі, Марыяй, якой Кастусь Каліноўскі потым прысвяціў верш «Марыська чарнабровая, галубка мая...». (Адзіны, які ўцалеў і дайшоў да нас).**

**Успаміны Л. Радзевіч напісаны, відаць, пасля вяртання з ссылкі ў пачатку XX стагоддзя. Засталіся неапублікаванымі. Рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве (ПНР). Публікуемы ўрывак з успамінаў Л. Радзевіч цікавы тым, што дадае новыя штрыхі да дзейнасці як самога К. Каліноўскага, так і блізкіх да яго на апошнім этапе паўстання людзей — Караліны Яцыны і Ядвігі Макжыцкай. Яны добра перадаюць атмасферу апошніх дзён паўстання 1863—1864 гадоў.**

**Кожнае слова пра Кастуся Каліноўскага, напісанае рукой яго сучасніка і паплечніка, нам, яго нашчадкам, дарагое тым, што дадае новыя рысы да вобраза нацыянальнага героя, 150-годдзе з дня нараджэння якога мы сёлета будзем адзначаць.**

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

# ЖМЕНЬКА ЎСПАМІНАЎ З 1863 ГОДА

Аднойчы раніцай я была разбуджана весткай, што ноччу зграя жандараў нечакана з'явілася ў доме маіх бацькоў і пасля старраннага вобыску* ўсіх, хто быў там, пачынаючы з брата Юзэфа, арыштавалі, а дом апячаталі. Забралі бацьку і маці, людзей пажылых, вядомых і паважаных у горадзе, тры сястры: Марыю, Алену і Схаластыку (яшчэ непаўналетнюю), а таксама служанку Карусю. У апошні час маці, апасаючыся лішніх сведак дзейнасці і сувязей сына Юзэфа, выправіла мужчынскую прыслугу, а з жаночай пакінула толькі адну дзяўчыну. Маці не згадзілася на жаданне Юзэфа жыць асобна ад сям'і, як ён таго хацеў для бяспекі бацькоў.

Штохвілінна прыходзілі новыя, хутчэй трагічныя весткі.

Адначасова ( з бацькамі) быў арыштаваны і Канстанцін Каліноўскі, які жыў пад прозвішчам Вітажэнца ў былых універсітэцкіх будынках, што прымыкалі да касцёла Св. Яна. Яго кватэру з асцярожнасці наведвала абмежаваная колькасць людзей, паколькі асоба яго — важная для справы — выключна аберагалася. Для сувязі з ім, дастаўкі яму і адсылкі яго карэспандэнцыі выдзелена была (арганізацыяй) цудоўная дзяўчына — Караліна Яцына.

Нечуваная па маштабу здрада Парфіяновіча ўскалыхнула ўсю Вільню. Немагчыма пералічыць усіх ахвяр, звязаных з ёю. Сярод іншых два браты Каліноўскія, сыны дырэктара дваранскага інстытута ў Вільні, Сілістроўскі Казімір, студэнт універсітэта, і столькі іншых, што нават знаёмых і родных — не ўсіх помню. З мінскай арганізацыі Аскерка, Свіда...

Цяжка сабе ўявіць больш страшнае становішча. Поўная разгубленасць у гэтым моры смутку і болю. Нялёгка было арыентавацца ў тых незлічоных ударах, што абрушваліся на горад. Каго аплакваць мацней? Каму больш спачуваць у няшчасці? Аб якой-небудзь дапамозе, акрамя дастаўкі ежы і задавальнення самых неабходных жыццёвых патрэб арыштаваных (нават далёка не ўсіх сваякоў), у той час нельга было і марыць.

У Кастуся Каліноўскага (жандары) спадзяваліся знайсці важныя дакументы, якія дарэчы, захоўваліся ў полай ножцы яго стала; аднак у момант вобыску яе не знайшлі, відаць



аб ёй [illegible]ведалі, а калі назаўтра ж[illegible]ары прыйшлі зноў, яна ўж[illegible]была пустая. Падвяргаючы[illegible]е вялікай небяспецы, Яцына іх апярэдзіла.

У той жа дзень прыйшла да мяне развітацца, бо была ўпэўнена, што, вярнуўшыся дамоў, сустрэне жандараў. Прадчуванне не [illegible]ланула яе! Гэта была наш[illegible]апошняя сустрэча, бо неўзабаве пасля вяртання з Сібіры, дзе яна выйшла замуж за паляка Саковіча, Яцына памерла якраз перад самым нашым прыездам з ссылкі. Яе дачка Алена засталася ў Пярмі, далейшы лёс яе мне невядомы.

Дзейнасць Кастуся Каліноўскага, гэтай трагічнай ахвяры, добра вядома не з аднаго сачынення. Ён узвышаўся над іншымі не столькі з пункту гледжання вышэйшага становішча, якое займаў у рэвалюцыйнай арганізацыі, колькі як чалавек жалезнай сілы характару. Таму не буду спецыяльна спыняцца на паўтарэнні вядомых фактаў, падкрэслю толькі, што яго слава заслужана выключна дзейнасцю, а ў нашай сям'і ён быў надзвычай любімы за свае маральныя і душэўныя якасці.

Паколькі не меў у Вільні блізкіх, а сябры не маглі клапаціцца аб важных палітычных зняволеных, таму што гэта магло выклікаць ускладненне адносін, апеку над ім, паколькі гэта было магчыма, на выключна строгіх умовах, узяла на сябе асоба надзвычай дзейная ў той час, калі размова ішла аб дапамозе найбольш важным палітычным зняволеным, удава Ядвіга Макжыцкая**. Жанчына элегантная, немаладая, адукаваная, добра выхаваная, у сціплым адзенні, яна заўсёды знаходзіла магчымасць пракладваць шляхі там, дзе іншыя не маглі і падступіцца. Яе сэрца заўсёды рвалася на дапамогу тым асуджаным людзям, нават калі асабістае знаёмства з імі было самым нязначным.

Не прыпамінаю цяпер, як яна атрымала права дастаўкі Каліноўскаму неабходных рэчаў. Наладзіла пры дапамозе хабару жандарам магчымасць абмену сакрэтнымі запіскамі ў інтарэсах зняволеных, сярод якіх мела блізкіх знаёмых.

Вядома, тыя запіскі не мелі сапраўдных тайн, таму што на такую вялікую жандарскую паслужлівасць ніхто не спадзяваўся. Як высветлілася потым, асцярожнасць не была залішняй, бо былі доказы, калі запіскі, аплачаныя па 10 рублёў, часта траплялі да «нявіннага» Лосева (палкоўніка жандармерыі — **В. Ш.**) і толькі потым адрасату. У адной з гэтых запісак, якая несла няшчаснаму слабое дыханне жыцця і падтрымлівала ілюзорную сувязь з тым светам, куды ўжо не меў надзеі вярнуцца, помню яго (К. Каліноўскага — **В. Ш.**) словы: «Зайздрошчу свабодзе нават той вароны, якую са свайго акна бачу на снезе».

Макжыцкая, захоўваючы выключную асцярожнасць, хаця ўвогуле грэбавала асабістай бяспекай, старалася не паказваць сваю дасведчанасць пад маскай прастаты і наіўнасці ў палітычных справах. І хаця гэтым засцерагала сябе ад праследаванняў, бывалі выпадкі, калі яе выклікалі ў следчую камісію для тлумачэнняў. Зразумела, гэта былі размовы сумнага зместу, якія яна нам перадавала пасля вяртання з камісіі. Гэта быў сапраўдны паядынак двух сіл з узаемным імкненнем ашукаць праціўніка. З аднаго боку, «дабрата і шчырасць» Лосева, з другога — «наіўнасць і прастата» Макжыцкай, пры дапамозе якой тая перамагала. Найлепшае сведчанне гэтаму выдаў сам «майстар хітрасці» (Лосеў — **В. Ш.**). Аднойчы пасля дарэмных, безвыніковых намаганняў звярнуўся да Югана (жандарскі паручнік — **В. Ш.**), які з цікавасцю прыслухоўваўся да размовы, сказаў раздражнёна і стомлена: «Comme elle est fin!» А можа быць, гэта быў жаль, што не меў дастатковых падстаў адправіць яе на шыбеніцу!

**Людвіка РАДЗЕВІЧ.**

*Тым не менш у жалабку пад акном мы знайшлі потым пячаць народнага ўрада. (Заўвага Людвікі Радзевіч на палях рукапісу. — **В. Ш.**).

** Яе сын Вацлаў, асуджаны да пакарання смерцю, уцёк, пераапрануўшыся, з Пецярбурга. Памёр у Дрэздэне. (Заўвага Людвікі Радзевіч на палях рукапісу. — **В. Ш.**).

## ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ ЦІШКУ ГАРТНАМУ

Вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Цішкі Гартнага (Дзмітрыя Жылуновіча), адбыўся ў Доме літаратара ў Мінску. Дзяржаўны дзеяч, які стаяў ля вытокаў утварэння Беларускай ССР, аўтар першых значных твораў нацыянальнай пралетарскай літаратуры, даследчык рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, адзін з першых акадэмікаў АН БССР, ён унёс значны ўклад у станаўленне і развіццё навукі і культуры ў рэспубліцы. Аб гэтым гаварылі першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. Гілевіч, пісьменнікі і крытыкі, прадстаўнікі грамадскасці.

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Віншую вас з надыходзячым Новым, 1988 годам! Жадаю супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» ўсяго самага добрага ў жыцці. Выказваю вам сардэчную падзяку за газеты, кнігі і пісьмы, якія прыходзяць да мяне рэгулярна. Новых поспехаў вам, усёй Беларусі і Савецкай Радзіме! Няхай заўсёды будзе яснае неба над галовамі людзей на Зямлі! Няхай матэрыялізуюцца такія вядомыя ўсяму свету паняцці, як «мір» і «перабудова». Няхай будзе дружба паміж усімі краінамі і народамі!**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ**

Аўстралія.

**Сардэчна віншуем рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» з надыходзячым Новым годам! Жадаем асабістага шчасця, моцнага здароўя, умацавання сувязей з суайчыннікамі за мяжой і міру на зямлі!**

**Сям'я Таісы КУПЕРУС-МАРЧАНКІ.**

Галандыя.

**Дарагія сябры ў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Дазвольце павіншаваць вас, а таксама ўсіх, хто жыве на тэрыторыі Савецкага Саюза, з Новым, 1988 годам. Жадаю вам вялікіх поспехаў ва ўсіх добрых справах!**

**Мікалай ВЯЕЎНІК.**

Англія.

**Дарагую рэдакцыйную калегію «Голасу Радзімы» сардэчна віншуем з Новым годам! Жадаем вам добрага здароўя і ўсялякіх поспехаў!**

**Віця і Янка ДУБЧОНКІ.**

Англія.

**Дарагія супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Сардэчна віншую вас з Новым, 1988 годам! Жадаю вам, а таксама ўсяму савецкаму народу новых поспехаў у працы на карысць міру і прагрэсу. Добрага вам здароўя і вялікага асабістага шчасця! Няхай новы год будзе для ўсіх людзей нашай зямлі годам дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі, годам міру і спакойнага жыцця!**

**Марыя ЛУЧ.**

Бразілія.

**Дарагія сябры!**

**Праўленне і члены Федэрацыі рускіх канадцаў г. Таронта сардэчна віншуюць супрацоўнікаў Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», увесь беларускі народ з Новым, 1988 годам! Жадаем моцнага здароўя, бадзёрага настрою, асабістага шчасця і поспехаў у працы, міру і працвітання! Няхай новы год умацуе мір і дружбу паміж народамі ўсёй зямлі, каб у кожнай сям'і былі любоў, спакой і шчасце!**

**З Новым годам!**

**Сакратар ФРК г. Таронта К. ЗВАНАРОВА.**

Канада.

**Паважаныя сябры з «Голасу Радзімы»!**

**Шчыра віншую з надыходзячым Новым годам!**

**Я ўпэўнена, што ў наступным годзе палепшацца адносіны паміж нашымі краінамі.**

**Візіт Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова вельмі зацікавіў амерыканскі народ, а таксама ўсю грамадскасць Захаду.**

**Няхай будзе мір і дружба паміж народамі! Няхай заўжды вам спадарожнічае поспех!**

**Вера КЛАЦКО.**

ЗША.

*ЖЫВЕ СТАРАЯ ТРАДЫЦЫЯ*

# «КАЛЯДАЧКІ, ХОЦЬ НЯДЗЕЛЕЧКУ ПРАЦЯГНІЦЕСЯ...»

Заслаўе... Цудоўны, старажытны куточак Беларусі.

У адзін з апошніх дзён снежня яго жыхары і госці з беларускай сталіцы сабраліся ў мясцовым музеі рамёстваў і народных промыслаў, каб прыняць удзел у народжаным яшчэ язычніцтвам навагоднім радасным, карнавальным, песенным свяце Каляды.

Гурт калядоўшчыкаў выліўся на вуліцы і скрыжаванні Заслаўя. Год 1988, у адпаведнасці з народным уяўленнем, будзе заможным і шчаслівым, таму што быў спеты «Добры вечар, шчодры вечар» — магічная калядка. Ідэалізав песенныя малюнкі аб працавітасці гаспадара, незлічоным багацці яго гаспадаркі, увішнасці гаспадыні, прыгажосці дачкі, смеласці сына павінны, паводле веры нашых продкаў у моц слова, стаць явай. А за такое цудадзейства трэба даць ахвяру — кавалак пірага, хлеба, каўбасы... У адным з вялікіх дамоў калядоўшчыкі атрымалі торт.



Асаблівую маляўнічасць каляднаму натоўпу надалі фігура Казы — сімвал урадлівасці, дух жытнёвага поля, Мядзьведзь — наш славянскі татэмны продак, Жораў, Бацян, пакараныя за парушэнне прывычных норм людзей, Кабылка — водгук прыручэння дзікіх жывёл і ўвасабленне дабрабыту гаспадаркі, Зорка — знак сіл дабра і святла. Часта іх дапаўняюць гумарыстычныя вобразы павадыра Кабылкі цыгана і яго жонкі-варажбіткі, чорта, ведзьмы, знахара, доктара і многіх іншых персанажаў. Неад'емнай часткай Каляды з'яўляюцца карагоды, гульні. Асабліва шырока распаўсюджана на поўначы Беларусі загадкавая «Жаніцьба Цярэшкі» — водгук старажытнай эпохі дапарнай сям'і. У наш час яна ператварылася ў цэлы абрадавы гульнёвы калядны вечар з танцамі, карагодамі, калядкамі-цярэшкамі жартоўнага характару, заляцаннямі дзяўчат і хлопцаў. Не менш цікавымі з'яўляюцца калядныя гульні Яшчур, Жораў, Зязюля, Жаніцьба бахара...

Але ж у Калядзе ёсць і сапраўдны тэатр. Гэта імправізаваныя сцэнкі-дыялогі з гаспадарамі хаты самых удзельнікаў калядавання, сярод якіх быў пачынальнік (знаўца абраду, найбольш дасціпны чалавек), запявала (музычна адораная асоба і знаўца калядак), музыканты (дудка, цымбалы, скрыпка, бубен), падхватнічкі, механоша. Часта гурты калядоўшчыкаў дапаўняліся лялечнымі або жывымі Батлейкамі.

Калядаванне ў Заслаўі стала прэлюдыяй да калядавання ў сталіцы Беларусі. Для падрыхтоўкі яго і будучых свят Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры стварыла цэнтр па ўзнаўленню народных абрадаў. Прыгожы стары звычай Каляды па праву стаў першым у гэтым будучым многаабяцаючым ланцужку. У Мінск былі запрошаны лепшыя фальклорныя калектывы са своеасаблівага запаведніка калядавання — Піншчыны. Тры дні з ...кім поспехам спявалі кал... паказвалі найбольш цікавыя моманты Каляды таленавітыя спевакі з вёсак Дабраслаўка, Сташаны і Чухава. Свята было знята на кінастужку для паказу па тэлебачанні.

**Васіль ЛІЦВІНКА.**





**НА ... МКАХ: святкаванне Каляды у Заслаўі.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## СПОРТ

У Львове напярэдадні Новага года завяршыўся розыгрыш Кубка СССР па стральбе з пнеўматычнай зброі. Гродзенскі спартсмен Ігар Басінскі ў стральбе з пісталета ўстанавіў рэкорд краіны, які на чатыры дзесятых ачка вышэй сусветнага...

Мы не выпадкова пачалі гаворку з апошняга выступлення гэтага спартсмена. Журналісты і аматары спорту на фінішы года дваццаць дзевяты раз вызначылі ў завочным рэферэндуме дзесятку лепшых спартсменаў Беларусі. Спіс узначаліў Ігар Басінскі.

Не пералічыць мінулагодніх перамог гэтага спартсмена. Літаральна на ўсіх буйных спаборніцтвах ён нязменна займаў першыя месцы. Прычым, як правіла, устанаўліваў сусветныя рэкорды.

Пераможнымі аказаліся для Ігара Басінскага выступленні на чэмпіянатах свету ў Хельсінкі і Еўропы ў Браціславе, міжнародным турніры ў ГДР, перадалімпійскім тыдні ў Сеуле...

Галоўны канкурэнт Ігара Басінскага — яго зямляк цяжкаатлет Аляксандр Курловіч — рэкардсмен свету. Дарэчы, у дзесятку лепшых увайшоў і яшчэ адзін штангіст — мінчанін Леанід Тараненка. Менавіта паміж гэтымі славутымі спартсменамі ішла вострая барацьба на першынстве краіны, міжнародных турнірах і афіцыйных спаборніцтвах самага высокага рангу.

З года ў год расце майстэрства тэнісісткі з Мінска Наталлі Зверавай. Юная беларуская спартсменка — зорка міжнароднага Уімблдонскага турніру сярод дзяўчат, увайшла ў лік шаснаццаці мацнейшых сярод дарослых. Наталля Зверава ў спісе лепшых спартсменаў рэспублікі па выніках мінулага года стаіць на трэцім месцы.

Хто яшчэ ў гэтым спісе? Назавём іх прозвішчы.

Марына Лобач (мастацкая гімнастыка), Вячаслаў Яноўскі (бокс), Ігар Жалязоўскі (канькабежны спорт), Алена Бялеўская (лёгкая атлетыка), Алена Марфель (стральба з лука), Марына Амяльянчык (водналыжны спорт).

У апытанні на лепшага футбаліста БССР мінулага года перамогу атрымаў мінскі дынамавец Сяргей Гоцманаў.

І апошняе. Прэзідыум Федэрацыі футбола СССР на сваім пасяджэнні зацвердзіў спіс дзесяці лепшых суддзяў сезона 1987 года. Трэці радок тут займае мінчанін В. Жук.

## ТАЛЕНТ—У СПАДЧЫНУ

Пацягацца са славутымі слуцкімі ткачыхамі пад сілу Аляксандру Казлову з вёскі Дразды Бешанковіцкага раёна, што на Віцебшчыне. Яго саматканыя дываны, посцілкі і абрусы радуюць вока ў дамах аднавяскоўцаў, ды і ўсёй акругі. Рамяство, якое лічыцца спрадвеку жаночым, запаўняе вольны час народнага ўмельца, які валодае такімі выключна мужчынскімі спецыяльнасцямі, як электрык, трактарыст, экскаватаршчык.

Любімы занятак дапамагае раскрыць усю паўнату і шматграннасць незвычайных здольнасцей таленавітага чалавека. Ён і канструктар, які распрацаваў праект самаробных кроснаў, і сталяр, які іх змайстраваў, і мастак — стваральнік самабытных узораў.

Захопленасць бацькі пераходзіць да дзяцей. У сына Юрыя, які таксама тчэ дываны, свая творчая манера, аднавяскоўцы сцвярджаюць, што ў майстэрстве і выдумцы малодшы Казлоў нікольки не ўступае старэйшаму.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 2